**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 4.47, 21.40, 16.53;
Віцебск — 4.29, 21.38, 17.09;
Магілёў — 4,37, 21.29, 16.52;
Гомель — 4.43, 27.17, 16.34;
Гродна — 5.05, 21.53, 16.48;
Брэст — 5.13, 21.45, 16.32.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 7 ліпеня.

**ІМЯНІНЫ:**
Фяўроніі, Пятра, Давыда, Ефрасініі;
Эльжбеты, Пракопа.





# ЗВЯЗДА

8 ЛІПЕНЯ 1992 г.
серада, № 135 (21913)

• выдаецца са жніўня 1917 г. • БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1 рубель




# РОЗГАЛАС

## ЧАКАЕМ БЕЛАРУСКІЯ МІЛЬЯРДЫ?

Падпісаны, нарэшце, дакумент аб поўным узаемным заліку ўсіх запазычанасцей паміж Беларуссю і Украінай. У выніку гэтай аперацыі Беларусь павінна атрымаць каля 10 мільярдаў рублёў. Гэта першае падобнае пагадненне паміж краінамі — членамі СНД у рамках падпісанага ў Ташкенце дакумента аб узаемных фінансавых разліках. У цэлым жа падлік запазычанасцей ідзе на карысць нашай рэспублікі. На думку беларускіх банкіраў, большасць краін СНД вінаваты Беларусі больш, чым яна ім, прычым толькі адна Расія — амаль 120 млрд. рублёў, а мы ёй — каля 40 мільярдаў. Агульная ж сума, якую павінна аддаць Беларусь сваім «калегам» па СНД, вагаецца ў межах 45—50 мільярдаў. Спадзяёмся, што грошы, атрыманыя ў выніку ўзаемных фінансавых разлікаў, пойдуць на карысныя справы.

## НАМЯЧАЕЦЦА ЗГОДА

**Праз паўгода пасля Віскулёў лідэры СНД усур'ёз заняліся праблемамі эканамічнай інтэграцыі**

**— Нават калі на маскоўскай сустрэчы былі б вырашаны толькі тры пытанні, — аб Эканамічным Судзе, аб падзеле маёмасці за мяжой і Кансультатыўным Эканамічным Савеце,—то і дзеля гэтага варта было ехаць у Маскву, — рэзюмаваў учора Вячаслаў Кебіч вынікі чарговай нарады лідэраў дзяржаў СНД, што адбылася 6 ліпеня ў сталіцы Расіі.**

Паказальна, што Старшыня Савета Міністраў вылучыў з паўтара дзесятка пунктаў парадку дня менавіта гэтыя, што датычаць найбольш надзённых эканамічных праблем. Ступень дэзінтэграцыі ў гаспадарчых сувязях паміж рэспублікамі былога СССР дасягнула такога пагражальнага ўзроўню, дысцыпліна паставак стала такім балючым месцам усіх без выключэння прадпрыемстваў,—што ідэя міжнароднага гаспадарчага арбітражу (вылучаная, дарэчы, беларускім бокам)—насуперак апасенням нашай дэлегацыі, не выклікала значных спрэчак.

Эканамічны Суд, як і ўсе іншыя каардынуючыя органы, размесціцца ў Мінску. У яго ўвойдуць па два суддзі ад кожнай краіны Садружнасці.

Кансультатыўны Эканамічны Савет (КЭС), рашэнне аб якім таксама прынята ў Маскве,— прапанова Казахстана.

— Мы ўсе ў рэшце рэшт усвядомілі, што калі будзем праводзіць няўзгодненую эканамічную палітыку, — нас вельмі лёгка можна будзе падманваць і абіраць, — пракаменціраваў гэта пагадненне С. Шушкевіч.

Магчыма, КЭС стане чымсьці накшталт СЭУ, які каардынаваў эканамічныя сувязі паміж краінамі былога сацлагера. Застаецца спадзявацца, што КЭС напаткае больш шчаслівы лёс, чым яго папярэдніка. Дарэчы, якой бы крытыцы ні падвяргаліся структуры былога Савета Эканамічнай Узаемадапамогі, іх распад балюча адбіўся на эканоміцы ўсіх краін, што ўваходзілі ў яго.

Падпісанне пагаднення аб раздзеле замежнай маёмасці былога СССР С. Шушкевіч назваў «адной з самых прыемных нечаканасцей» маскоўскай сустрэчы. Наша дэлегацыя напярэдадні нарады доўга рыхтавалася да таго, каб абгрунтаваць неправамернасць довадаў расійскіх экспертаў, якія прапаноўвалі дзяліць, мякка кажучы, не зусім па справядлівасці. На здзіўленне многім, Масква не настойвала на гэтых патрабаваннях і аргументы беларускага боку не спатрэбіліся.

Маскоўская сустрэча, бадай, першая з сямі, што адбыліся з часу Белавежскага пагаднення, — на якой эканамічныя праблемы сталі цэнтрам увагі лідэраў дзяржаў. Праўда, абаронных пытанняў у Маскве таксама разглядалася нямала: аб сродках сістэм папярэджання; аб ракетным нападзе і кантролі касмічнай прасторы, аб сістэме проціпаветранай абароны, аб Галоўным камандаванні Аб'яднаных Узброеных Сіл СНД, — але па значнасці яны ўступалі тым, пра якія згадвалася вышэй.

Кіраўнікі Беларусі не хавалі свайго задавальнення вынікамі маскоўскай нарады. Праўда, такая рэакцыя нашых лідэраў на падобныя сустрэчы стала ўжо традыцыйнай, і традыцыйна яе не падзяляюць многія іншыя ўдзельнікі падобных пасяджэнняў.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## КАБ НЕ БЫЛО ДЛЯ «ПТУШАЧКІ»

Зараз, як вядома, вядзецца абмеркаванне твораў, прадстаўленых на конкурс Дзяржаўнага гімна: яны гучаць па радыё, тэлебачанні. Але нам, звычайным слухачам, вельмі цяжка зрабіць свой выбар. А таму, лічу, неабходна наступнае: апублікаваць усе тэксты ў газетах (на слых не ўсё ўспрымаецца), а на радыё і тэлебачанні арганізаваць аднначасовае праслухоўванне музычных твораў. Тады і можна будзе вызначыць, які праект лепшы. Цяперашні ж адбор, вельмі падобна, робіцца для «птушачкі».

**М. ЛЮБІМАЎ.**

г. Ліда.



## Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

### АБ САЦЫЯЛЬНАЙ ПАДТРЫМЦЫ АСОБНЫХ КАТЭГОРЫЙ ГРАМАДЗЯН ВА ЎМОВАХ НЯСПЫННАЙ ЛІБЕРАЛІЗАЦЫІ ЦЭН

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у гэтым годзе прыняў рад мер па паляпшэнню матэрыяльнага становішча насельніцтва рэспублікі. Павышаны размеры пенсій, стыпендый, дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей. Інвалідам Вялікай Айчыннай вайны і прыроўненым да іх асобам, а таксама інвалідам з ліку рабочых, служачых, калгаснікаў і інвалідам з дзяцінства павялічана кампенсацыя расходаў на бензін, рамонт, тэхнічнае абслугоўванне аўтамабіляў, матакалясак і на запасныя часткі да іх.

У мэтах недапушчэння зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва, асабліва малазабяспечаных слаёў, ва ўмовах далейшай лібералізацыі цэн Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць з 1 ліпеня 1992 г. аднаразовую дапамогу сем'ям пры нараджэнні дзіцяці ў памеры трох мінімальных заработных плат.

2. Пачынаючы з другога паўгоддзя гэтага года пры нараджэнні блізнят бясплатна выдаваць на кожнае дзіця камплект дзіцячых рэчаў першай неабходнасці коштам 4.000 рублёў за кошт сродкаў бюджэту.

3. Назначаць і выплачваць з 1 ліпеня 1992 г. штомесячныя дапамогі сем'ям на дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16 гадоў (вучняў дзённых агульнаадукацыйных школ, гімназій, ліцэяў да іх заканчэння, а таксама навучэнцаў, якія вучацца за кошт уласных сродкаў у вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных установах і на курсах, працуючых па рэжыму навучальных устаноў у дзённы час, і не атрымліваюць стыпендый, да 18 гадоў) у поўным аб'ёме, калі сукупны сярэднемесячны даход на члена сям'і за I квартал гэтага года не перавысіў трохразовага размеру мінімальнай заработнай платы (1.650 рублёў), і ў размеры 50 працэнтаў, калі сукупны даход на члена сям'і не перавысіў чатырохразовага размеру мінімальнай заработнай платы (2.200 рублёў).

4. Зрабіць у ліпені гэтага года аднаразовую выплату кожнаму непрацуючаму пенсіянеру 300 рублёў за кошт сродкаў бюджэту.

5. Пенсіённаму фонду прадугледзець павелічэнне асігнаванняў з 3 да 10 млн. рублёў для аказання матэрыяльнай дапамогі састарэлым і непрацаздольным грамадзянам рэспублікі.

6. Аплачваць з новага навучальнага года іншагароднім студэнтам вышэйшых, навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў пры немагчымасці пасялення іх у інтэрнатах расходы па найму жылля ў размеры 25 працэнтаў мінімальнай заработнай платы ў месяц. Асобам, якія выключаны з інтэрнатаў за парушэнне правіл пражывання, выплата не робіцца.

7. У мэтах выканання артыкула 34 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» і ўлічваючы складанасць і характар працы педагагічных работнікаў і прафесарска-выкладчыцкага саставу, увесці з 1 верасня 1992 г. каэфіцыенты павышэння ставак заработнай платы і службовых акладаў па прафесіянальна-кваліфікацыйных групах указаных работнікаў да 1,3.

Распаўсюдзіць указанае павышэнне заработнай платы на асноўныя катэгорыі спецыялістаў аховы здароўя, фармацыі, культуры і мастацтва, асобныя катэгорыі работнікаў іншых галін, фінансуемых з бюджэту.

Лічыць неабходным павялічыць размер сродкаў для прэміравання педагагічных работнікаў і прафесарска-выкладчыцкага саставу і ўстанаўлення ім надбавак за высокія творчыя дасягненні ў працы.

Дзяржаўнаму камітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў прыняць рашэнне па даных пытаннях.

8. Дзяржаўнаму камітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва з улікам артыкула 8 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прыярытэтным сацыяльна-культурным і эканамічным развіцці вёскі і аграпрамысловага комплексу» па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў унесці ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапанову аб павышэнні на 20 працэнтаў службовых акладаў (тарыфных ставак) кіраўнікоў устаноў аховы здароўя, народнай адукацыі, культуры, фізкультуры і спорту, сацыяльнага забеспячэння, размешчаных у сельскай мясцовасці, у параўнанні з аплатай працы адпаведных кіраўнікоў, якія працуюць у гарадах.

9. У мэтах узмацнення сацыяльнай абароны працуючых рэкамендаваць кіраўнікам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый пры вылічэнні сярэдняй заработнай платы за дні штогадовых аплатных водпускаў, па часовай непрацаздольнасці, пры выплаце выхадной дапамогі і ў іншых выпадках, прадугледжаных дзеючым заканадаўствам, выключаць час водпускаў, прадастаўляемых без захавання заработнай платы ў сувязі з часовай адсутнасцю работы.

10. Звярнуць увагу кіраўнікоў міністэрстваў, ведамстваў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый на недапушчальнасць зніжэння службовых акладаў работнікам, якія падлягаюць звальненню ў сувязі са скарачэннем вытворчасці, удасканаленнем структуры і ўпарадкаваннем штатаў.

11. Згадзіцца з прынятым Ашчадным банкам рашэннем аб устанаўленні з 1 ліпеня 1992 г. працэнтных ставак па ўкладах да запатрабавання ў размеры 6 працэнтаў гадавых, па ўкладах, унесеных на ўмовах доўгага захоўвання, у наступных размерах:

ад 1 года да 3 гадоў — 20 працэнтаў гадавых;
ад 3 да 5 гадоў — 25 працэнтаў гадавых;
звыш 5 гадоў — 30 працэнтаў гадавых.

12. Прызнаць страціўшымі сілу абзац сёмы пункта 10 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 20 снежня 1991 г. № 482 (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1991 г., № 36, арт. 443), абзац другі пункта 8 і абзац першы пункта 11 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28 лютага 1992 г. № 108 (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 7, арт. 103), абзац другі пункта 5 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 6 мая 1992 г. № 255 (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 13, арт. 228) і пункт 6 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 3 чэрвеня 1992 г. № 334 (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 16, арт. 295).

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. КЕБІЧ.**
**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. КАЎКО.**

6 ліпеня 1992 г.
г. Мінск.

# Купалінка, Купалінка, цёмная ночка





Уначы грымнуў гром. Усё адбылося, як у старым паданні: чароўная папараць-кветка распускаецца апоўначы, і, калі які-небудзь шчаслівчык яе заўважыў,—з неба чуецца гром. Відаць, нехта з мінчан сапраўды знайшоў цуда-кветку на беразе возера, дзе ў купальскую ноч гарэлі вогнішчы, гучалі песні, па лузе кружылі карагоды.

— Другі раз мы прыехалі ў Мінск на такое свята, — гаворыць удзельніца самадзейнага фальклорнага гурта «Радзімічы» з Гомеля школьніца Наташа Наумовіч. — Сёлета будзем спяваць прыпеўкі, танцаваць.

— Мы тут упершыню, — гавораць падлеткі з фотаапаратамі ў руках. — Прыехалі з Польшчы на канікулы і самае цікавае, лічым, убачылі і пачулі ў гэтую купальскую ноч.

«Выдатна», — так казаў амаль кожны, з кім давялося размаўляць каля начных вогнішчаў. Гэта ацэнка многім: і мінскім самадзейным артыстам, і іх калегам з розных месц рэспублікі, і тым, хто працаваў у імправізаваных буфетах, хто забяспечваў парадак у начным парку. Цудоўна адпачылі тут мінчане і госці горада.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

ПАТРАБУЕЦЦА ЎВАГА САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ

# Вакол гомельскіх хімічных Гімалаяў

### ШТО ЛЕПШ: ПРАДАЦЬ ІХ ЗАМЕЖЖУ ЦІ ВЫКАРЫСТАЦЬ КАШТОЎНУЮ СЫРАВІНУ Ў ІНТАРЭСАХ УСЁЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ!

**Як толькі не называюць гамяльчане гэтыя высачэзныя шэрыя горы, што сваімі вострымі шпілямі лезуць у неба: і Кардыльерамі, і Гімалаямі, і Казбекам, і Эверэстам. Вобразнае найменне атрымаў і бліжэйшы да гэтых гор жылы масіў — «Даліна смерці».**

Можа, гэтыя параўнанні і з'яўляюцца крыху метафарычнымі, перабольшанымі, аднак сутнасць праблемы застаецца: горы фасфагіпсу — адходаў вытворчасці хімічнага завода, у якіх сёння знаходзіцца яго велізарная колькасць — каля 13 мільёнаў тон, забруджваюць навакольнае асяроддзе, пранікаюць у грунтовыя воды, адмоўна ўздзейнічаюць на здароўе гараджан, бо жылыя кварталы размяшчаюцца недалёка (трэба ж было так спраектаваць прадпрыемства!).

За многія гады існавання завода яго калектыў выдаткаваў на навуковыя мэты не адзін дзесятак мільёнаў рублёў. З тым, каб утылізаваць гэтыя адходы, запусціць іх у вытворчасць і атрымаць нейкія выгоды. І хто толькі не браўся за гэта, а воз, як кажуць, і зараз там. Апошнім часам, праўда, намеціліся нейкія зрухі, з'явілася надзея, што праблема будзе нарэшце вырашана. Але як, з якім каэфіцыентам карыснага дзеяння? І хто атрымае ад гэтага выгаду?

Пытанні вельмі актуальныя. З аднаго боку — той жа фасфагіпс з'яўляецца зыходнай сыравінай для далейшай вытворчасці. А вядома, што сёння ўладальнік сыравіны заказвае музыку, дыктуе сваю палітыку. З другога — гэта валюта: долары, маркі і інш. «Дайце іх нам, і не трэба валтузіцца з гэтымі гарамі, а ўжо што неабходна рабіць з СКВ, нас вучыць не трэба»,— сцвярджаюць мясцовыя ўмельцы.

Менавіта дзве такія тэндэнцыі ідуць побач у праблеме выкарыстання фасфагіпсу. А для таго, каб ведаць каштоўнасці гэтых адходаў, скажам, што ў іх змяшчаецца да 75—80 працэнтаў сернакіслага кальцыю, ёсць крэмназём і шырокі спектр рэдказямельных металаў, якія даражэй за золата і плаціну і прымяняюцца ў электроннай і аэракасмічнай прамысловасці. У сусветнай практыцы існуе вызначэнне: калі, скажам, у рудзе ўсяго адзін працэнт таго ж ванадыю, яна лічыцца багатай.

Дык вось, калі зараз у Гомель прыязджаюць групы іншаземцаў - прадпрымальнікаў, рэдкую з іх не вязуць да адвалаў хімзавода. Госці прыцмокваюць языкамі і прапаноўваюць свае паслугі. Кітайцы, напрыклад, аўстра-германскую тэхналогію атрымання з фасфагіпсу сернай кіслаты і цэменту, для чаго гатовы спраектаваць завод. Ды толькі вядома адно: «зялёныя» ў Аўстрыі і Германіі рашуча ўзняліся супраць такой тэхналогіі і заводаў, якія нанясуць прыродзе значны ўрон, і вучоныя адмовіліся ад яе. Гэта адно. Але, калі кітайцы і возьмуцца за справу, дык колькі часу пойдзе на праектаванне і будаўніцтва прадпрыемства?

Немцы прапануюць перапрацоўваць фасфагіпс у абліцовачную плітку. Адна ўстаноўка для яе вытворчасці каштуе 18 мільёнаў марак. Гэта сума, якая яўна не па кішэні ўсяму Гомелю з яго паўмільённым насельніцтвам.

Не засталіся ўбаку і нашы суседзі — шведы. Яны гатовыя за тры мільёны долараў прадаць нам ідэю і праект вытворчасці з адходаў Гомельскага хімзавода сернай кіслаты. Але ці ёсць на гэты праект экалагічная экспертыза — ніхто не ведае.

Сваё слова сказалі і французскія фірмачы, якія навучыліся з фасфагіпсу атрымліваць асобы від цэменту — дуцаліт, што прымяняецца для вытворчасці панелей для дамоў і іншых збудаванняў, вогнеўпорнага пакрыцця абсталявання марскіх свідравін. Гамяльчане зацікавіліся гэтай прапановай, аднак лабараторыя Васкрасенскага хімічнага завода выдала несуцяшальныя аналізы: агульнага і растваральнага фтору ў тым дуцэліце больш за гранічна дапушчальную канцэнтрацыю.

Значыць, па экалагічных даных ён не праходзіць. Але французы не разгубіліся: ну і што? А мы будзем прадаваць дуцэліт у трэція краіны, і такія з іх, як Марока, возьмуць тавар, дэфіцытны для яе, з ахвотай. А долары падзелім.

Хто-ніхто ў Гомелі ўхапіўся за гэту ідэю: ёсць выгада. Аднак знайшліся і такія, хто запярэчыў. Па-першае, перапрацоўка фасфагіпсу за наш кошт абыдзецца нібы ў той прымаўцы: «за морам цяля — паўрубля, ды сто перавозу». Па-другое, каб тыя «Гімалаі» крыху «пашчыпаць», трэба самае малое пяць французскіх установак. А гэта пяць мільёнаў долараў. Акупіць жа сябе яны змогуць толькі на зыходзе другога года эксплуатацыі, а тэрмін зносу іх — паўтара года. Паспрабуй потым дастаць запчасткі, бо аб іх выдзяленні ў кантрактах французы не хочуць даваць ніякіх абавязацельстваў. Па-трэцяе, продаж экалагічна шкоднай прадукцыі, хай сабе і ў трэція краіны, нешта не вяжацца з мараллю сумленнага чалавека.

Вельмі цікавую ідэю падкінулі гамяльчанам з Чэха-Славакіі — даюць за адну тону фасфагіпсу восем долараў, а немцы, зрабіўшы яшчэ адзін захад, прапануюць адзінаццаць долараў. У абласных і гарадскіх выканкомах нямала прыхільнікаў гэтых двух варыянтаў: атрымлівай СКВ — і не трэба ніякіх клопатаў. Аднак спецыялісты і тут убачылі «падводныя камяні». Транспарціроўка адходаў за наш кошт

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## РАДЫЁФАКТ

«Адно з галоўных дасягненняў сустрэчы ў Маскве — прыняцце дакументаў аб стварэнні Эканамічнага Суда,— сказаў у гутарцы з карэспандэнтам «Радыёфакта» Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч.—Усе дакументы аб статусе гэтага органа рыхтавала група спецыялістаў нашай рэспублікі, і іх работа атрымала высокую ацэнку».

«СНД будзе жыць»,—сказаў Старшыня Саўміна Вячаслаў Кебіч. — Падпісаныя дакументы дапамогуць вырашыць найбольш вострыя пытанні эканамічнага і палітычнага жыцця». Дарэчы, подпісы нашых кіраўнікоў стаяць не пад усімі дакументамі.

***

**«Колькасць свабодных рабочых месц і вакансій пастаянна зніжаецца. На сённяшні дзень у рэспубліцы іх у два-тры разы менш, чым летась. Падкрэслю, што гэтыя месцы ў асноўным толькі для рабочых. Для спецыялістаў свабодных месц практычна няма. У гэтым годзе каля сямі тысяч чалавек прызнаны беспрацоўнымі, а ўсяго ў нас пабывала больш за сорак тысяч чалавек»,— паведаміў нам начальнік упраўлення Дзяржаўнага камітэта па працы і сацыяльных пытаннях Дзмітрый Ванееў.**

## РЫНАК «ЖАРТУЕ»

**МІЁРЫ. Невядома ў якой колькасці і якія сюрпрызы будзе падносіць нам рынак. Міярчанам ён, напрыклад, «забараніў» есці сыр «адыгейскі». З-за высокай цаны на яго знізіўся попыт, і малаказавод па гэтай прычыне быў вымушаны спыніць выпуск смачнай прадукцыі.**

Вытворчасць сыру цяпер прадпрыемству абыходзіцца ў 67 рублёў за кілаграм, а калі яшчэ дабавілі гандлёвую накідку, то для пакупніка ён аказаўся не па кішэні.

У пройгрышы — не толькі спажыўцы, але і прадпрыемства, бо вялікая частка прыбытковай прадукцыі дастаўлялася ў Полацк. Гэта значыць, што не па сваёй віне завод пазбавіцца часткі прыбытку. А магчыма, заводу адкрыць свае гандлёвыя кропкі, дзе сыр прадаваўся б па значна ніжэйшай цане, чым у дзяржаўных магазінах?

# Вакол гомельскіх хімічных Гімалаяў

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

забярэ да 60 і больш працэнтаў іх кошту. Дык што, так і будуць ляжаць гэтыя горы адходаў і забруджваць навакольнае асяроддзе?

Між тым у Беларусі ёсць свая айчынная тэхналогія перапрацоўкі адходаў, атрымання з іх каштоўнай прадукцыі. Адным з аўтараў яе з'яўляецца Гомельскі навукова-тэхнічны кааператыў «Другасныя рэсурсы», які добра зарэкамендаваў сябе па выпуску тавараў народнага спажывання. У кааператыве, які ўзначальвае кандыдат тэхнічных навук Іван Сцяпанавіч Баранаў, сабраліся высокакваліфікаваныя вучоныя і інжынеры. Яны паспяхова ўтылізавалі адходы вытворчасці Беларускага металургічнага завода, якія па аўстрыйскай тэхналогіі павінны былі спальвацца, і атрымалі з іх змазваючую ахаладжальную вадкасць. Прымяненне яе ў народнай гаспадарцы дало вялікі эканамічны эфект.

Кааператыў некалькі гадоў ужо займаецца адходамі вытворчасці хімзавода. Яму ўдалося з крэмнязёму, які ішоў у адвалы, атрымаць тэхнічны аэрасіл. Зараз ён выкарыстоўваецца як напаўняльнік тэхнічнай паперы, з якой робяць плёнку для пакрыцця мэблі, у якасці дабавак ідзе ў клей для дрэваапрацоўчай прамысловасці і запалкавай вытворчасці. Аэрасіл ахвотна купляюць многія прадпрыемствы рэспублікі і краін СНД.

І вось доўгачаканая ўдача: распрацаваны арыгінальны сухі метад атрымання вяжучых матэрыялаў — цэменту і гіпсу. Дасягненням кааператыва пазайздросцілі нават французы, бо цэмент маркі 350—400, дарэчы, вельмі дэфіцытны, атрыманы, па-першае, белага колеру, што пашырае дыяпазон яго прымянення, а па-другое, экалагічна чысты.

— Лабараторныя вынікі — не прамысловыя,— сказалі завадчане кааператарам.— Калі і там атрымаеце вяжучыя, хай сабе і ніжэйшай маркі, але якія адпавядалі б усім санітарна-тэхнічным патрабаванням, мы вас прызнаем.

Члены НТК, закасаўшы рукавы, узяліся за справу. Уклалі ў спецыяльны ўчастак свае грошы, зрабілі вялікі аб'ём работ і зноў здзівілі завадчан, задаволіўшы іх умовы. Паралельна з кааператывам перапрацоўкай фасфагіпсу займаліся і калектывы Інстытута неарганічнай хіміі Акадэміі навук Беларусі, аб'яднанне «Гомельсельбуд» і дарожна-будаўнічы трэст № 2, якія з адходаў атрымалі гіпс. Іх метад таксама з'яўляецца арыгінальным і сапернічае з метадам кааператыва.

— Між іншым,— расказвае Іван Сцяпанавіч,— мы прапаноўвалі французам аб'яднаць нашы намаганні такім чынам. На іх установках прымяніць нашу тэхналогію. Паабяцалі падумаць, але адказу няма.

А кааператыў тым часам пайшоў далей. Ведаючы, што ў рэспубліцы глеба бедная на кальцый і серу, з-за чаго змяншаюцца надоі малака і прывагі жывёлы, члены кааператыва вырашылі паспрабаваць зрабіць з фасфагіпсу кармавыя дабаўкі. Па ўзгадненню і з адабрэння Гомельскага аграпрома і рэспубліканскага Інстытута жывёлагадоўлі такія эксперыменты пад кіраўніцтвам кандыдата сельскагаспадарчых навук В. Галушкі праводзяцца ў Веткаўскім і Брагінскім раёнах.

Адным словам, горы фасфагіпсу, якія раней нікому не былі патрэбныя, зараз, вобразна кажучы, засвяціліся грашыма. Як напісаў у дакладной запісцы ў аблвыканком старшыня абласной камісіі па навуцы і тэхнічнаму прагрэсу доктар тэхнічных навук, прафесар П. Грунтоў, адвалы хімзавода з'яўляюцца каштоўнейшай сыравінай. Вытворчасць фасфатных цэментаў дазволіць у многім вырашыць праблемы будаўнічай індустрыі. Перапрацоўка фасфагіпсу на вапну і серную кіслату, як прапаноўваюць вучоныя, стабілізуе вытворчасць мінеральных угнаенняў, значна скароціць увоз дэфіцытнай серы, а атрыманне з фасфагіпсу кармавых дабавак вырашыць праблему дэфіцыту кальцыю і серы ў рацыёне жывёлы.

Для рэалізацыі намечанага камісія (а гэта было яшчэ летась) лічыла неабходным, каб аблвыканком выдзеліў два з палавінай мільёны долараў для закупкі пяці французскіх установак па перапрацоўцы фасфагіпсу і сем мільёнаў рублёў для арганізацыі прамысловай вытворчасці фасфатнага цэменту і гіпсавых вяжучых па айчынных тэхналогіях. Камісія абяцала, што валютная акупнасць гэтых укладанняў пры пачатку вытворчасці ў красавіку 1992 года будзе забяспечана да канца сёлетняга года, а ў далейшым дасць стабільны валютны прыбытак.

Намечанаму не суджана было збыцца з-за вядомых прычын у грамадстве, фінансавых архіцяжкасцей, шалёнага галопу цэн і г. д. Адсюль і прапановы некаторых гарачых галоў хутчэй збыць фасфагіпс заходнім бізнесменам за долары, у чым яны бачаць выгаду для рэспублікі. На нашу думку, Беларусь атрымае ад гэтай здзелкі зусім мала. Але ж ёсць і айчынная тэхналогія перапрацоўкі фасфагіпсу ў сыравіну і матэрыялы, якія цалкам пойдуць на яе патрэбы, ліквідуюць шэраг праблем. І хаця такую прапанову падтрымалі Дзяржбуд рэспублікі і Інстытут жывёлагадоўлі, цяжкасцей у рэалізацыі праграмы хоць адбаўляй. Ды не толькі таму, што патрабуюцца дадатковыя грашовыя і матэрыяльныя затраты.

Дык што рабіць? Аўтары айчынных распрацовак — гамяльчане і мінчане — спрабуюць аб'яднацца, каб пачаць ажыццяўляць сваю праграму. Ім супрацьстаяць прыхільнікі продажу фасфагіпсу за доларавыя ін'екцыі. І ніхто не можа скласці праграму і распрацоўку тэхналогіі першапачатковай «выцяжкі» з адходаў рэдказямельных металаў. Бо гэта — праблема заўтрашняга дня. А пакуль што гомельскія хімічныя Кардыльеры па-ранейшаму забруджваюць навакольнае асяроддзе і, як сумна кажуць гараджане, шлюць прывітанне «даліне смерці».

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

РЭПЛІКА

## ДЗІЎНАЯ ШЧОДРАСЦЬ

Усе ведаюць, у якім няпростым, мякка кажучы, становішчы апынулася цяпер вёска. У прыватнасці, цэны на сельскагаспадарчую тэхніку ўзраслі да такой ступені, што многім гаспадаркам яна проста не па кішэні. Не гаворачы ўжо аб фермерах, для большасці з якіх той жа трактар (няхай нават не адразу з заводскага канвеера, а са стажам) яшчэ доўга, відаць, будзе нязбытнай марай.

Аднак ці заўсёды такі страшны чорт, як яго малююць? Як распараджаюцца ў нас тым, чым валодаюць? Вось некалькі фактаў для роздуму з акта нядаўняй рэвізіі гаспадарча-фінансавай дзейнасці калгаса «Маяк» Карэліцкага раёна (старшыня С. Лычкоўскі).

У канцы мінулага года ў гэту гаспадарку завіталі госці з Прыбалтыкі. Адзін з іх, Пяркуне Лайман, набыў два трактары «МТЗ-80» за 30 тысяч рублёў і тры камбайны «Ніва» за 12.195 рублёў. Другі, Ю. Мурнене, за «МТЗ-80» заплаціў 3.750 рублёў, а за «Ніву» — 5.625.

Незадоўга перад гэтым нейкі Яніс Абанс набыў у калгасе рухавік за 40 рублёў, каробку перамены перадач — за 30, задні мост — таксама за 30, пярэдні мост — за 5, кабіну — за 22 рублі. Такім чынам, пакупнік затраціў усяго 127 рублёў, і яму, нават улічваючы леташнія цэны і тое, што некаторыя з гэтых вузлоў і агрэгатаў ужо былі ў карыстанні, можна толькі пазайздросціць...

Вядома, калі гаспадарка перанасычана тэхнікай і ўсё пералічанае ёй не патрэбна — можна зразумець жаданне перавесці тавар у грошы. Калі гэта ёй выгадна. Але якую, скажыце, выгаду атрымаў калгас ад продажу тэхнікі па цэнах, што літаральна праз некалькі тыдняў пасля гэтых здзелак сталі проста сімвалічнымі?! І гэта пры тым, што размовы аб маючай адбыцца лібералізацыі цэн пачаліся задоўга да яе пачатку. Невыпадкова госці з Прыбалтыкі з такім «апетытам» накінуліся на дармаўшчыну. Яны добра разумелі, што трактар ці камбайн ужо ніколі не будуць каштаваць якіх-небудзь пару тысяч рублёў. А значыць, трэба не ўпусціць свой шанц. І яго дзякуючы проста дзіўнай шчодрасці кіраўніцтва «Маяка» не ўпусцілі...

Дарэчы, тут не заўсёды бываюць шчодрымі. Напрыклад, пры разліках за закупленую ў насельніцтва жывёлу летась прымяняліся цэны, якія не адпавядалі катэгорыі яе ўкормленасці. У выніку людзям недаплачвалі па 700—800 рублёў, што па мінулагодніх цэнах даволі адчувальна. Затое прыбалтыйскім фермерам (калі яны сапраўды фермеры, а не дзялкі, якія зрабілі выдатны бізнес на перапродажы атрыманай на Беларусі тэхнікі) калгас удружыў лепш не трэба. Ні ў сябе ў гаспадарцы, ні ў раёне, ні ў вобласці жадаючых купіць трактар, відаць, не знайшлося. Ці іх проста не шукалі?

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## Ці моцныя карані ў кроны?

**ТАЛІН, 6. (Рэпарцёр БелаПАН). У сямейства нацыянальных валют нядаўна ўвайшла эстонская крона. Што ж можна купіць на кроны і цэнты ў Эстонскай Рэспубліцы, якая першай пакінула рублёвую зону?**

Кілаграм варанай каўбасы ў Таліне каштуе 8 крон, бутэлька малака — 90 цэнтаў, бохан чорнага хлеба — ад 85 цэнтаў да 1,55 кроны. Цана кілаграма свініны —8,40, ялавічыны — 6.60, бройлераў — 10,20, масла 20 крон, мукі — 1 крона. Цыгарэты «Астра» — паўтары кроны, «Космас» ці «Bond» — 3—5 крон, «Marlboro» — 15—17 крон. «Фанта» і «Пепсі» абыходзяцца ў 2—3 кроны, марожанае «Пінгвін» — 1,30,

Няхай і не поўнае, але ўяўленне аб каштоўнасці кроны вы атрымалі. Цяпер — пра зарплаты, якіх чакаюць — не дачакаюцца эстонскія жыхары, атрымаўшыя пры абмене ў адны рукі 150 крон замест 1.500 рублёў. Мінімальная, устаноўленая ўрадам,— 200 крон. Максімальную ў дзяржаўных структурах атрымлівае толькі прэм'ер-міністр Цийт Вяхі — яго зарплата складае 1.600 крон. Працуючыя на дзяржпрадпрыемствах інжынеры атрымаюць 400—700, а дырэктары гэтых прадпрыемстваў — ад 500 да 1.000 крон. Кіраўнікі бальніц, ВНУ і іншых бюджэтных установ— ад 1.132 да 1.410 крон.

ВАША ПІСЬМО АТРЫМАЛІ

## Просяць людзі зямлі

**Рэдакцыйная пошта даволі часта прыносіць пісьмы, аўтары якіх скардзяцца на тое, што ім не выдзяляюць зямельных участкаў. Чаму?**

**На гэты раз з такім пытаннем у «Звязду» звярнуліся В. Углік з в. Клетнае Барысаўскага і Г. Паўлава з в. Замошша Любанскага раёнаў.**

Старшыня Барысаўскага райсавета **В. КІБЕРМАН** паведаміў, што заява В. Угліка разгледжана з выездам на месца і яму выдзелены прысядзібны ўчастак плошчай 90 сотак.

А ў адказе старшыні Любанскага райсавета **В. СОЙКІ** гаворыцца, што пытанне выдзялення Г. Паўлавай зямельнага ўчастка будзе разгледжана на сесіі Даросінскага сельскага Савета народных дэпутатаў і вырашана ў адпаведнасці з Кодэксам аб зямлі Рэспублікі Беларусь.

## Будуць і камунальныя льготы

**Каго хвалююць зямельныя надзелы, а ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны Павел Фёдаравіч Бань з Лунінецкага раёна просіць растлумачыць, якімі камунальнымі льготамі ён зможа карыстацца як ветэран.**

**На гэта пытанне адказвае намеснік начальніка аддзела Міністэрства сацыяльнага забеспячэння РБ Л. КЛІМЕНКА:**

— У Законе «Аб ветэранах» адначасова з пацвярджэннем усіх раней прынятых актаў заканадаўства былога Саюза і Рэспублікі Беларусь, якія ўстанаўліваюць правы і льготы ветэранам, значыцца і шэраг дадатковых. У прыватнасці, з 1 студзеня 1993 года ветэранам вайны (мужчынам, што дасягнулі 60 гадоў, а жанчынам —55 гадоў), якія не маюць дзяцей, а таксама жывуць асобна ад дзяцей і іншых сваякоў, прадастаўляецца 50-працэнтная скідка па аплаце жылой плошчы ў межах норм, прадугледжаных дзеючым заканадаўствам, за карыстанне тэлефонам (акрамя міжгародніх і міжнародных перагавораў) і камунальных паслуг (ацяпленне, газ, водаправод, электраэнергія). А тыя, хто жыве ў дамах, дзе няма цэнтральнага ацяплення, будуць мець 50-працэнтную скідку з кошту паліва, што набываецца ў межах норм, устаноўленых для продажу насельніцтву.

**З 1 ліпеня 1993 года льготы, прадугледжаныя дзеючым заканадаўствам для інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны III групы, у межах Рэспублікі Беларусь будуць распаўсюджаны на ветэранаў вайны, якія дасягнулі 70-гадовага ўзросту.**

## І ў гасцях не парушай закона

**Быў з сынам у адпачынку ў Гродна. Сёе-тое купілі на мясцовым базары, але пры пасадцы ў цягнік Гродна — Масква міліцыя нас затрымала і ўсё адабрала. Да таго ж, злоўжываючы ўладай, абышліся з намі груба, абразліва.**

**г. Новакузнецк. В. ФІЛАТАЎ.**

**Ніколі не думала, што ў гасціннай Беларусі мяне абрабуюць, ды яшчэ прыцягнуць да судовай адказнасці. Чаму ў г. Гродна творыцца такое беззаконне?**

**г. Балакова, Саратаўская вобл. Т. ШВАЛЮК.**

На гэтыя скаргі, якія былі накіраваны для праверкі Вярхоўнаму суду Рэспублікі Беларусь і пракуратуры Гродзенскай вобласці, рэдакцыі паведамілі наступнае.

**Старшыня Гродзенскага абласнога суда І. БУЙКО:**

— Устаноўлена, што пастановай Кастрычніцкага раённага народнага суда г. Гродна ад 15 красавіка 1992 года В. Філатаў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці на падставе арт. 10 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб часовых мерах па абароне спажывецкага рынку Рэспублікі Беларусь» у выглядзе штрафу ў памеры 5.000 рублёў з канфіскацыяй 10 джынсавых кашуль, 3 пар джынсавых штаноў, 15 джынсавых спадніц, 3 турэцкіх світараў, 3 джэмпераў, 3 жаночых кашуль, 10 баваўняных маек, 5 жаночых блузак, 5 мужчынскіх тэнісак. Лічу такое рашэнне народнага суда законным і абгрунтаваным.

Згодна з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 6 лістапада 1990 года № 275 з унесенымі ў яго змяненнямі «Аб парадку вывазу (адпраўкі) тавараў і іншых матэрыяльных каштоўнасцей», адзенне і трыкатаж аднесены да ліку тавараў, вываз якіх за межы рэспублікі забаронены.

З пратакола, акта дагляду і тлумачэння затрыманага бачна, што вышэй пералічаны тавар на суму 40 тысяч рублёў набыты на рынку г. Гродна з мэтай вывезці яго поездам Гродна — Масква ў Новакузнецк. Спасылка на тое, што тавар куплены ў грамадзян Польшчы, неабгрунтаваная.

**Пракурор Кастрычніцкага раёна г. Гродна П. УРУБЛЕЎСКІ:**

— Заява гр-кі Швалюк Т. аб прыцягненні яе да адміністрацыйнай адказнасці праверана. Пастановай народнага суддзі Кастрычніцкага раёна г. Гродна ад 15.04.92 г. яна, згодна з арт. 10 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб часовых мерах па абароне спажывецкага рынку Рэспублікі Беларусь», аштрафавана на 5.000 рублёў з канфіскацыяй вывозімага тавару.

Вывучэннем матэрыялаў устаноўлена, што судовае рашэнне прынята ў адпаведнасці з вышэйназваным Законам, і таму падстаў для яго адмены няма.

## Ці заўсёды можна ганарыцца ордэнам, нават калі ён і баявы?

**Незвычайнае пісьмо прыйшло ад П. Кішчанкі з Ушацкага раёна. Яго аўтар сумняваўся ў сапраўднасці дакументаў аб інваліднасці і ўзнагародах аднавяскоўца Г. Барадулькі і прасіў іх праверыць.**

**Начальнік аддзела агульнага нагляду пракуратуры Віцебскай вобласці, куды было накіравана гэта пісьмо, А. ТАРАСАЎ даслаў адказ такога зместу:**

Пракуратурай вобласці праведзена праверка дакументаў аб устанаўленні інваліднасці, звязанай з фронтам, гр-ну Барадульку Г. П. і ўзнагароджанні яго ордэнам Чырвонай Зоркі.

У сувязі з тым, што ў дакументах ёсць супярэчнасці, пракуратурай даручана адпаведнай Віцебскай абласной медкамісіі паўторна разгледзець пытанне аб прычыне яго інваліднасці.

Праверкай таксама ўстаноўлена, што даведкі аб трох раненнях, якія з'явіліся падставай для ўзнагароджання Г. Барадулькі ордэнам Чырвонай Зоркі, не адпавядаюць сапраўднасці і таму правамернае пытанне аб пазбаўленні яго гэтай узнагароды. Аднак у сувязі з распадам СССР адсутнічае дзяржаўны орган, правамоцны адмяніць гэты акт аб узнагароджанні. Дзяржаўным органам Рэспублікі Беларусь паўнамоцтвы аб пазбаўленні ўзнагарод былога СССР не дадзены.

## Аўтобус па вашаму жаданню

**Пасажыры для аўтобуса ці, наадварот, аўтобус для пасажыраў. Скажаце, каламбур нейкі. Не, аўтобус для таго і існуе, каб вазіць людзей. Іншая справа, што нярэдка бываюць вельмі ўжо нязручныя маршруты, расклад руху на іх. Менавіта аб гэтым напісаў М. Мамус ад імя жыхароў п. Камянюкі Камянецкага раёна.**

Думаецца, што адказ намесніка начальніка «Мінскпасажыраўтатранса» **А. МУХІНА** задаволіць камянецкіх вяскоўцаў. Ён паведаміў: аб'яднанне выйшла з хадайніцтвам у Міністэрства транспарту Рэспублікі Беларусь аб змяненні раскладу руху аўтобусаў па маршруце Мінск — Белавежская пушча. У прыватнасці, адпраўленне з г. Мінска будзе ў 22 гадзіны 10 хвілін і з Белавежскай пушчы — у 12 гадзін 50 хвілін. Згодна з гэтым раскладам аўтобус прыбудзе ў Мінск не ўначы, а ў 21 гадзіну 11 хвілін.

**Аднак могуць быць удакладненні, таму, паважаныя пасажыры, уважліва сачыце за інфармацыяй.**

**Падрыхтаваў да друку аддзел пісьмаў «Звязды».**

НАКІД ПАРТРЭТА САЦЫЯЛЬНАЙ З'ЯВЫ

# НЕ ЦЕШЦЕ НАДЗЕЯЙ ТЫХ, КАМУ ЯНА ЗДОЛЬНАЯ ЗЛАМАЦЬ ЖЫЦЦЁ

**ЯК ЧАСТА ДРОБЯЗНЫЯ НІКЧЭМНЫЯ КАНФЛІКТЫ, ЗАЦЯГВАЮЧЫ Ў СВОЙ ВІР, ПЕРАТВАРАЮЦЬ ЛЮДЗЕЙ У ХРАНІЧНЫХ СКАРЖНІКАЎ, ЛАМАЮЦЬ ІМ ЖЫЦЦЁ, ПАРАЛІЗУЮЦЬ РАБОТУ ДЗЯРЖАЎНЫХ УСТАНОЎ, НАРАДЖАЮЦЬ ЦЭЛАЕ САЦЫЯЛЬНАЕ БЕДСТВА, ІМЯ ЯКОМУ — СУЦЯЖНІЦТВА.**

**Апошнія пяць гадоў яго часта можна было бачыць у абедзвюх сталіцах. У час сваіх прыездаў у Маскву ён прыходзіў да ўрадавых будынкаў і стаяў ля іх з флагам і плакатам, патрабуючы асабістага прыёму Прэзідэнтам СССР. Колер флага залежаў ад палітычнай кан'юнктуры, якая часта мянялася. Можа, таму апошні яго пікет ля Вярхоўнага Савета Беларусі абыходзіўся зусім без сімволікі. Тыя, хто ў мінулым месяцы праходзіў міма будынка парламента, бачылі на пляцоўцы ля ўваходу адзінокую прыземістую фігуру маладога мужчыны ў кепцы—сціпла апранутага, з уважлівым позіркам і нетаропкімі рухамі. На шыі—ад рукі напісаны плакат з патрабаваннем асабістай сустрэчы з С. Шушкевічам. У перапынку паміж гутаркамі з тымі, хто прыпыняўся ля яго,—мужчына з незалежным выглядам адпачываў на гранітным бардзюры.**

**...Калісьці, на зары перабудовы, калі пратэсты, дэманстрацыі і пікеты яшчэ толькі ўваходзілі ў палітычную моду, я з павагай і спачуваннем ставіўся да ўсіх гэтых людзей. Мне здавалася, што выйсці на плошчу і, ахвяруючы асабістым часам, працай, сям'ёй, дні і тыдні праводзіць у чаканні, можна толькі ў стане крайняга адчаю, ад бязвыходнасці, ад таго, што дзверы чыноўнікаў, якія могуць дапамагчы, перад табой наглуха зачынены і застаецца адна надзея—на «добрага цара», на першую асобу ў дзяржаве. Не сказаць, каб гэты ідылічны стэрэатып быў зусім няпраўдзівы. Але тое, што нельга мераць усіх, хто пратэстуе на плошчы і дабіваецца рандэву з лідэрамі дзяржавы,— адной меркай ахвяр сістэмы і змагароў за праўду — мне таксама стала зразумела. І асабліва — пасля знаёмства са справай гэтага чалавека.**




### М. Гарбачоў — М. Дзямянцэю: «Прашу сустрэцца з В. Якоўчыкам»

Да таго як стаць прафесійным барацьбітом за справядлівасць, Вячаслаў Якоўчык працаваў інжынерам у Тураўскім лесапрамгасе.

Мяркуючы па ўсім, начальству ў рот не глядзеў, што ўзаемнай сімпатыі паміж імі, зразумела, не выклікала. Зусім магчыма, што рацыю ў гэтых спрэчках меў Якоўчык. Дапускаю, што стыль і метады кіраўнікоў лесапрамгаса былі далёка не ідэальныя. Але нават у такой сітуацыі я б не стаў формай пратэсту выбіраць нявыхад на работу. А Якоўчык паступіў менавіта так. За прагулы быў звольнены. 10 сакавіка 1988 года Жыткавіцкі народны суд адмовіў яму ў аднаўленні на працы, паколькі працоўнае заканадаўства адміністрацыя, звальняючы інжынера, не парушыла.

Банальная гісторыя, якіх — сотні і тысячы. Але—якія працяг! Прымітыўная цяжба, памножаная на ўпарты характар Якоўчыка, штурхнула нікому не вядомага тураўскага інжынера ў вір вялікай палітыкі і занесла ў калідоры самай высокай улады. І дзверы ў гэтых калідорах перад гэтым чалавекам расчыніліся.

Якоўчыка прымалі ў Маскве і Мінску на ўзроўні, на якім прымаюць далёка не самых апошніх палітыкаў і дыпламатаў. «Стукайце—і вам адчыніцца». Якоўчык стукаўся з такой сілай, што адчыняліся кабінеты, для прыкладу, Генеральнага пракурора рэспублікі (прычым двойчы: спачатку Тарнаўскага, потым — Ігнатовіча), старшыні Вярхоўнага Суда Беларусі У. Каравая, міністра юстыцыі (цяпер ужо былога) В. Ціхіні, намесніка Генеральнага пракурора СССР Я. Дзяніціса, старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета М. Грыба, — не кажучы ўжо пра службовых асоб рангам ніжэй.

Пасля кожнай такой асабістай сустрэчы з кіраўнікамі правасуддзя адпаведныя службы ўчынялі праверкі справы Якоўчыка, потым — пераправеркі, потым — праверкі праверак. Вярхоўнаму Суду на працягу 1988—1990 гадоў давялося сем разоў адмаўляць у прынясенні пратэсту на рашэнне Жыткавіцкага суда.

Якоўчык не здаваўся. Стыхія барацьбы да такой ступені захапіла яго, што на нейкім этапе першапачатковая прычына цяжбы—страта працы—згубіла для яго вастрыню. Раённыя ўлады, змучаныя бясконцымі інспекцыямі і званкамі «зверху», не раз прапаноўвалі Якоўчыку работу ў самых розных месцах. Якоўчык адмаўляўся і настойваў на аднаўленні ў лесапрамгасе. Пратэкцыю ў працаўладкаванні праўдашукальніку прапаноўваў у Маскве намеснік старшыні Камітэта Вярхоўнага Савета СССР Рэшатаў — Якоўчык адмовіўся.

Ён ужо не хацеў быць інжынерам. Можна толькі здагадвацца, якія ўнутраныя плыні кіравалі ўчынкамі гэтага чалавека.

Сістэма — тая сістэма, якую наш брат журналіст гэтульк разоў ганьбіў за чэрствасць, нялюдскасць і глухату,— на справе аказалася не такой ужо непрабівальнай для яго, Якоўчыка. І наўрад ці не цешылі яго самалюбства ўсе гэтыя рандэву з генераламі і міністрамі, у час якіх ён, Якоўчык, мог ультыматыўна патрабаваць, дабівацца праўды і справядлівасці. Бадай, ён рос у гэты час ва ўласных вачах. Дадайце да гэтага шматдзённае пікетаванне з дзёрзка лунаючым сцягам над галавой і смелым плакатам у руках. Ён, Якоўчык, на вачах ва ўсёй плошчы ў гэты момант не проста аспрэчваў рашэнні ўсіх судоў, якія не задаволілі яго, а—кідаў выклік сістэме. Так адбылося тое, што адбылося: Якоўчык усур'ёз паверыў, што ператварыўся ў палітыка і сваім змаганнем адстойвае «інтарэсы сацыялістычнай дзяржавы», а таксама ўсіх прыніжаных і пакрыўджаных.

Марксісты недарэмна папярэджвалі, што ідэя барацьбы за справядлівасць, якая авалодвае чалавекам,—вялікая сіла. Я б дабавіў — страшная па сваёй разбуральнасці.

Ідэя, якая апанавала Якоўчыка, прымусіла яго забыць пра сям'ю з трыма малалетнімі дзецьмі, пра работу, пра ўсе тыя прывычныя клопаты, якімі жыве звычайны чалавек. За два першыя гады свайго змагання ён (па яго ўласных падліках) 270 разоў звярнуўся пісьмова ва ўсе кампетэнтныя інстанцыі БССР і СССР, а таксама ў ААН і Ватыкан. Пішучы праз дзень скаргі і выязджаючы для акцый пратэсту ў сталіцы, часу для працы ён меў надзвычай мала.

У лютым 1990 года Якоўчыка па рэкамендацыі Дзяржынскага РАПА прынялі ў калгас «Беларусь» загадчыкам майстэрняў. Далі зямлю і жыллё. Папрацаваўшы да красавіка, Якоўчык не выйшаў на работу, бо і тут быў не задаволены стылем і метадамі кіраўніцтва.

На той час ідэя барацьбы так захапіла былога інжынера, што ён вырашыў што б там ні стала асабіста сустрэцца з М. Гарбачовым, выкласці яму ўсе крыўды, а заадно «прадставіць Прэзідэнту свае прапановы па завяршэнню перабудовы і пачатку будаўніцтва камуністычнага грамадства».

Якоўчык амаль дабіўся свайго — яго пісьмо трапіла да М. Гарбачова. Міхаіл Сяргеевіч уласнаручнай рэзалюцыяй папрасіў М. Дзямянцея прыняць аўтара пісьма. А калі б прыняў Прэзідэнт СССР Якоўчыка і прыслухаўся да яго прапаноў па завяршэнню перабудовы? Хто ведае, можа, зусім іншая доля чакала б і Міхаіла Сяргеевіча, і Вячаслава Вячаслававіча, і ўвогуле—увесь Савецкі Саюз?

### «Сумна на гэтым свеце, панове!»

Калі я гартаў пухлую папку з летапісам змагання Якоўчыка за сацыяльную справядлівасць, мяне не пакідала ўражанне, што ў некага з класікаў я ўжо чытаў пра падобную гісторыю. Успомніў — у Гогаля. Памятаеце—«Аповесць пра тое, як пасварыліся Іван Іванавіч з Іванам Нікіфаравічам». Адзін з іх са злосці назваў другога гусаком — і гэта пераламала на дзесяцігоддзі жыцці колішніх добрых суседзяў, ператварыўшы іх у адну суцэльную бясконцую цяжбу.

А вось і эпіграф з Гогаля, які так і хочацца прышпіліць да якоўчыкавай папкі: «Што гэта вы робіце, Іван Іванавіч? Бога бойцеся! Кіньце просьбу, хай яна прападзе! (Сатана прысніся ёй!) Вазьміцеся лепш з Іванам Нікіфаравічам за рукі, ды пацалуйцеся, ды купіце сантурынскага, ці нікапальскага, ці хоць проста зрабіце пуншыку, ды паклічце мяне! Разап'ём разам і забудзем усё!»

Але не, не атрымалася так у Міргарадзе — не магло атрымацца і ў Тураве. І не атрымліваецца ў дзесятках, сотнях іншых канфліктаў, якія, дробязныя і нікчэмныя самі па сабе, зацягваючы ў свой вір, ператвараюць звычайных людзей у хранічных скаржнікаў, ламаюць ім жыццё, паралізуюць работу дзяржаўных органаў, параджаюць цэлае сацыяльнае бедства, імя якому — суцяжніцтва.

Апантанасць, якая не можа знайсці рацыянальнага, разумнага выйсця — страшная сама па сабе. Апантаныя моцнымі пачуццямі, страсцямі, ідэямі людзі — або патэнцыяльныя геніі, або патэнцыяльныя самазабойцы.

Што можа спыніць гэту апантанасць, калі загадзя бачна, што нікуды, акрамя як у тупік, прывесці яна не можа? Толькі цвёрдасць і паслядоўнасць тых, з кім сутыкаецца «змагар за справядлівасць». Ранейшыя часы многіх прывучылі да «тэлефоннага права», да таго, што «закон як дышла», што аднаго начальніцкага вокрыку дастаткова, каб асадзіць любы суд з усімі яго рашэннямі. Усё гэта множыць племя суцяжнікаў, утрыманцаў, людзей, для якіх іх зацыкленасць становіцца справай жыцця, галоўнай прафесіяй.

Дзіўная, магутная, невытлумачальная энергія кіруе ўчынкамі гэтых людзей. Яе б — ды ў мірных мэтах... Але адначасова з гэтай узнікае і другая думка — дзе крыніцы такой энергіі? Што жывіць гэты яркі і гарачы, але непатрэбны агонь?

Парадаксальна, але факт: паленні ў гэты страшны касцёр кідалі ўсе тыя пракуроры, міністры, генералы, хто абяцаў разабрацца і аднавіць справядлівасць. Хто ўчыняў праверкі і пераправеркі. Між тым як адзіным арбітрам у гэтай, увогуле, звычайнай, прымітыўнай справе павінен быў заставацца толькі суд. На жаль, той момант, калі Якоўчык быў яшчэ здольны ўспрыняць і асэнсаваць гэту ісціну і адчуць безнадзейнасць сваіх намаганняў, даўно ўжо безваротна мінуў.

...Узброены заключэннем незалежнай міжнароднай псіхіятрычнай экспертызы аб уласнай псіхічнай паўнацэннасці (папера з дзесяткам ліловых пячатак робіць незабыўнае ўражанне на тых, каму яе прад'яўляюць), Якоўчык з плакатам браў апошні аплот—кабінет С. Шушкевіча. У ход былі пушчаны: аўтарытэт Ніла Гілевіча, які «здаўся» Якоўчыку і напісаў Старшыні Вярхоўнага Савета пісьмо з адпаведнай просьбай аб прыёме; праца групы незалежных юрыстаў, скліканай М. Грыбам, у якую ўвайшлі пяць вядучых спецыялістаў з Савета Міністраў, Пракуратуры рэспублікі, Мінюста і г. д. (камісія яшчэ раз пацвердзіла неабгрунтаванасць скаргаў Якоўчыка) і яшчэ адно асабістае пісьмо яго, В. Якоўчыка, адрасаванае С. Шушкевічу. У пісьме былы інжынер паведамляў, што «вымушаны стаяць насмерць» і што «з-за неабдуманага ўчынка, дапушчанага раённым суддзёй», яму «даводзіцца ахвяраваць жыццём». Над апошнім я, дарэчы, зусім не іранізую, бо ўпэўнены, што, сцвярджаючы гэта, Якоўчык не пагражаў, а канстатаваў сумны факт сваіх цяперашніх адчуванняў.

«Такія моцныя буры выклікаюць страсці!» — паўторым услед за Гогалем выснову яго назіранняў за ракавой сваркай Івана Іванавіча і Івана Нікіфаравіча. І яго ж апошнюю фразу, якой заканчваецца аповесць: «Сумна на гэтым свеце, панове!»

### С. Шушкевіч — В. Якоўчыку: «Вы дармаед і гультай»

Якоўчык дабіўся свайго — яго прыняў Старшыня Вярхоўнага Савета. Паўгадзіны ў абедзенны перапынак кіраўнік дзяржавы гутарыў з Якоўчыкам, што, бадай, цешыла самалюбства апошняга, але наўрад ці задаволіла яго хваравітыя амбіцыі.

Я быў пры гэтай размове і коратка, фрагментамі перадаю яе змест, не акцэнтуючы ўвагі на ўжо вядомых вам фактах.

— Як вы думаеце, колькі ў нас людзей, пакрыўджаных ранейшымі структурамі, хто мог бы скардзіцца гэтак жа, як вы, на несправядлівасць? — спытаў С. Шушкевіч.

— Я ведаю траіх.

— А калі па вялікаму рахунку? Калі ўспомніць усіх несправядліва асуджаных, расстраляных, загнаных у лагеры — іх сем'і? Напэўна, кожны трэці ў краіне мае падставы для скаргаў. І калі б кожны гэтак жа, як вы, гадамі хадзіў па інстанцыях, калі б кожнага так, як вас, па дзесяць разоў прымалі самыя высокія кіраўнікі дзяржавы,— мы б нічога не рабілі, акрамя разбору скаргаў.

— У адносінах да мяне дапушчана злачынства. У судзе была парушана калегіяльнасць, не правяраліся факты праследавання мяне за крытыку, не апрошваліся мае сведкі.

— Я ўважліва пазнаёміўся з вашай справай. Яе павінен вырашаць суд. Суд сваё слова сказаў. Вашу справу правяралі незалежныя юрысты. Вы што, усім ім не давяраеце? І пракурорам — Тарнаўскаму і Ігнатовічу, і Грыбу, і Караваю? Усе яны прадузятыя?

— Ігнатовіч знайшоў працэсуальныя парушэнні.

— Але гэтыя працэсуальныя парушэнні не маглі паўплываць на рашэнне суда... Я тут гляджу вашу справу. У вас трое дзяцей. Вы ўжо пяць гадоў не працуеце. Хто іх корміць?

— Дзяржава.

— А чаму дзяржава павінна разлічвацца за ваша дармаедства? Вы ўсведамляеце, што ператварыліся ў дармаеда і гультая? Вы эксплуатуеце жонку, якая працуе ў лесапрамгасе... Няўжо вы лічыце гэта пытанне праблемай дзяржаўнай важнасці? Вам колькі разоў прапаноўвалі работу? Даруйце, але вы падобны на дзівака, які тры гады назад згубіў галёш, а цяпер патрабуе, каб яму вярнулі той самы і не згаджаецца на новы.

— Калі справа не вырашыцца справядліва, я да канца сваіх дзён буду сцвярджаць, што жыткавіцкі суддзя зламаў маё жыццё.

— Вы проста пайшлі за тым натоўпам, для якога галоўнае — не работа, а зусім іншыя рэчы. Я магу вам дапамагчы ва ўладкаванні на работу — у апошні раз. Прытым не дзеля вас — дзеля вашых дзяцей. Пачніце нармальна працаваць, забудзьце гэтыя крыўды. Паверце, яны дробязныя. І ўлічыце — я зраблю ўсё, каб па гэтаму пытанню вас больш ніхто не прымаў.

— Я хацеў бы атрымаць пісьмовы адказ за вашым подпісам.

— Нічога вы больш не атрымаеце. І канчайце гэтыя гульні...

...Якоўчык — адзін з многіх. Не ва ўсіх хапае цярпення і адвагі дабівацца прыёмаў у прэзідэнтаў і міністраў, але тое, што суцяжніцтва стала сацыяльнай з'явай, — сумны факт.

С. Шушкевіч расказаў, як на пачатку дэпутацтва яго асаджалі тыя, хто дабіваўся па-за чаргі аўтамабіля. «Пазачаргавікоў» было многа — машын мала. Тады ён запрасіў да сябе ўсіх аўтараў заяў — іх было больш як пятнаццаць — і прапанаваў самім выбраць, хто з іх больш дастойны мець уласныя «калёсы». Яны зразумелі яго і не даймалі больш такімі просьбамі.

— Найбольш прыкра тое, што з-за іх часам застаюцца непачутымі тыя, каму сапраўды патрэбна дапамога і каму можна дапамагчы, — падсумаваў Станіслаў Станіслававіч.

Калі б размова, падобная той, што адбылася ў В. Якоўчыка з С. Шушкевічам, — адкрытая, часам знарок жорсткая, без усялякіх авансаў і недагаворак, — была ў Якоўчыка з кімсьці з аўтарытэтаў раней — хто ведае, можа, і не было б гэтых пяці змарнаваных гадоў, знясільваючага марафона пратэстаў, пікетаў, цяжбаў...

Якоўчык не хаваў свайго незадавальнення спатканнем з С. Шушкевічам:

— Я разлічваў на іншае... Але што ж, цяпер давядзецца змірыцца і скарыцца гэтай сістэме.

Потым, ужо на развітанне:

— Нічога, гэты Вярхоўны Савет не вечны. Вось будзе рэферэндум, новыя выбары. Яшчэ паглядзім...

А ці варта чакаць, Вячаслаў Вячаслававіч? Ці варта зноў спрабаваць ашчаслівіць чалавецтва сваім змаганнем за справядлівасць? Можа, лепш паспрабаваць зрабіць шчаслівымі тых, хто побач з вамі?

**Валянцін ЖДАНКО.**

# РОЗГАЛАС

## НА РАДЗІМУ – У БРОНЗЕ

ВІЦЕБСК. Днямі ў Віцебску адкрыўся помнік вядомаму мастаку Марку Шагалу. Яго імя ведалі ў Парыжы, Берліне, Варшаве. Цяпер ён навечна «пасяліўся» на сваёй радзіме.

Адкрыццё помніка супала з 105-годдзем з дня нараджэння вялікага мастака.

## У тайніку – некалькі мільёнаў рублёў

Як паведамілі ў падраздзяленні грамадскіх сувязей Камітэта дзяржаўнай бяспекі, супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю КДБ Рэспублікі Беларусь разам з Міністэрствам бяспекі Расіі закрылі яшчэ адзін канал кантрабанды. 6 ліпеня, яны правялі ўдалую аперацыю па канфіскацыі абразоў, антыкварыяту і іншых каштоўнасцей, якія прызначаліся для кантрабанднага вывазу за межы рэспублікі. Папярэдняя ацэнка іх складае некалькі мільёнаў рублёў.

У ходзе аперацыі выяўлены тайнік, дзе хавалася звыш ста абразоў, а ўсяго прадметаў, якія маюць гістарычную, культурную, мастацкую і ювелірную каштоўнасць, там было больш як 150.

Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

## «Прывядзі ты мне прастытутку»

**Амерыканская асацыяцыя жанчын, якія змагаюцца за раўнапраўе, абвясціла конкурс на званне «Самы дрэнны шэф года». Канкурсантаў хапае: некаторыя начальнікі прымушаюць сваіх сакратарак праходзіць медыцынскае даследаванне на страхавы поліс замест уласных жонак, нехта — націраць сваю лысіну вадкасцю з дрэнным пахам супраць выпадання валасоў. Шэфы не саромеюцца прымушаць сакратарак здаваць кватэру для сустрэчы з палюбоўніцай. А некаторыя нават пасылаюць іх у бліжэйшае бістро за дзяўчынай-прастытуткай.**

## АЎТОБУСЫ-ДЫМАКУРЫ

ГОМЕЛЬ. **(У. Пернікаў).** Гуляючы па вуліцах горада, людзі не падазраюць, што іх у гэты час старанна труцяць рознымі ядавітымі газамі. З праверных трыццаці машын аўтапарка № 6, напрыклад, толькі тры не перавышалі норму выкідаў шкодных рэчываў.

Ненамнога адсталі і ў аўтапарку № 1, дзе каля палавіны «Ікарусаў» выпускаюць густыя чорныя шлейфы дыму.

Штрафы ДАІ не дапамагаюць. Таму гамяльчане сумна зазначаюць наступнае. Радыенукліды, якія трапляюць у арганізм чалавека, цяпер суседнічаюць там з вокісам вугляроду і іншай трасцай, якую ўтрымліваюць выхлапныя газы. Жывём, браткі, жывём!

## Рыхтуюць парадак дня

7 ліпеня ў Мінску пачалася нарада групы экспертаў прыродаахоўных ведамстваў краін — удзельніц СНД.

Ім трэба будзе вызначыць парадак дня і напрацаваць праекты асноўных дакументаў да пасяджэння міністраў, старшынь камітэтаў і кіраўнікоў дэпартаментаў па ахове навакольнага асяроддзя краін Садружнасці. Нарада пачнецца ў сталіцы Беларусі 9 ліпеня. Мяркуецца, што на гэтай сустрэчы будзе абмеркаваны пратакол аб стварэнні і паўнамоцтвах Міждзяржаўнага экалагічнага савета.

**(Кар. БЕЛТА).**

Мінск.

## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

### ПОЛЫМЯ КАХАННЯ

**Сёмага ліпеня ў 0.20 мін. у гарадскім пасёлку Обаль Шумілінскага раёна мясцовы жыхар Анатоль Ж. з-за рэўнасці падпаліў у гаражы каністру з бензінам. Агнём знішчаны яшчэ дзевяць суседніх гаражоў і чатыры матацыклы, якія знаходзіліся там. Сам Ж. загінуў, а вучаніца Обальскай сярэдняй школы, якая была з ім, атрымала апёкі і змешчана ў бальніцу.**

### ПІСТАЛЕТ—ЗБРОЯ ДЛЯ ВУЧНЯ!

ГОМЕЛЬСКІ РАЁН. Калі супрацоўнікі міліцыі вечарам затрымлівалі вучня 8 класа Давыдаўскай сярэдняй школы Т. І., які быў п'яны, яны нават падумаць не маглі, што той узброены. Ды не чым-небудзь, а адназарадным, самаробным пісталетам. У кішэні падлетка знайшлі і пяць дробнакаліберных патронаў. Калі ў яго спыталі, навошта зброя, вучань адказаў: на ўсякі выпадак.

### ПАЛЯВАННЕ НА ІНШАЗЕМЦАЎ

У Гомелі працягваюць рабаваць іншаземцаў, якія прыбываюць сюды ў камандзіроўку ці з гуманітарнымі мэтамі. Дайшло да таго, што абрабавалі паліцэйскага і святара з Германіі, якія прывезлі гуманітарную дапамогу чарнобыльцам. А вось цяпер дабраліся да галандца, які прыехаў на вытворчае аб'яднанне «Гомельдрэў» дапамагаць манціраваць імпартнае абсталяванне. З яго машыны ўкралі 200 амерыканскіх долараў і столькі ж германскіх марак, двухкасетны магнітафон, сумку з адзеннем.

## АФІЦЭРЫ ЛІЧАЦЬ ЗА ЛЕПШАЕ СЛУЖЫЦЬ НА РАДЗІМЕ

**Больш за 10 тысяч генералаў, афіцэраў і прапаршчыкаў — выхадцаў з Беларусі, што праходзяць цяпер службу за яе межамі, накіравалі ва ўпраўленне кадраў Міністэрства абароны РБ рапарты з просьбай прадаставіць ім магчымасць вярнуцца на Радзіму і знайсці пасады ва Узброеных Сілах рэспублікі.**

Як паведаміў у інтэрв'ю карэспандэнту «Інтэрфакса» начальнік упраўлення кадраў ваеннага ведамства Беларусі палкоўнік Іван Зубко, усяго за межамі рэспублікі служыць больш за 45 тысяч беларусаў, каля 5 тысяч з іх — у «гарачых кропках» былога СССР. Паводле слоў палкоўніка, сёлета Беларусь прыняла 1.060 ваеннаслужачых, у тым ліку 5 генералаў. Згодна з распараджэннем міністра абароны Беларусі генерал-палкоўніка Паўла Казлоўскага, у першую чаргу прымаюць афіцэраў з зон баявых дзеянняў — Грузіі, Нагорнага Карабаха, Прыднястроўя.

Спасылаючыся на шматлікія асабістыя размовы з ваеннаслужачымі, што праходзяць там службу, І. Зубко сказаў, што жыццё там становіцца невыносным не толькі з-за бяссэнсавых для нашых землякоў баявых дзеянняў, у якіх ім даводзіцца прымаць удзел, але і па іншых прычынах. Многія афіцэры адправілі свае сем'і за межы дзяржаў, на тэрыторыях якіх ідзе кровапраліцце. Але па прычыне існуючых абмежаванняў у банкаўскіх сістэмах рэспублік былога СССР, высылаць зробленыя ратнай працай грошы сваім сем'ям яны не могуць. Вельмі часта губляюцца пісьмы ваеннаслужачых дамоў, яны не маюць магчымасці пазваніць па тэлефоне. На думку І. Зубко, Міністэрству абароны Расіі трэба было б вырашыць пытанне выдачы грошай сем'ям афіцэраў па атэстатах праз ваенкаматы, як практыкавалася гэта ў перыяд афганскай кампаніі.

Звыш 4 тысяч афіцэраў-беларусаў прынялі прысягу на вернасць Украіне. Начальнік упраўлення кадраў МА Беларусі паведаміў, што непрыняўшыя яе землякі вымушаны ці наогул звальняцца з арміі, ці вяртацца ў Беларусь.

Ва Узброеных Сілах рэспублікі назіраецца лішак афіцэраў. Іх стала так многа, што міністр абароны вымушаны быў выдаць загад аб магчымасці назначэння на сяржанцкія пасады камандзіраў танкаў і гармат малодшых афіцэраў. Сітуацыя склалася такая, што Узброеным Сілам Беларусі афіцэры-мотастралкі спатрэбяцца толькі ў 2006 годзе, а афіцэры-танкісты — у 2004-м. Аднак аб фарміраванні якіх-небудзь толькі афіцэрскіх падраздзяленняў у Міністэрстве абароны Беларусі і не думаюць — дарага. Сярэдні афіцэрскі аклад у беларускай арміі—8 тысяч рублёў у месяц. У год на ўтрыманне кожнага афіцэра выдаткоўваецца прыкладна 100 тыс. рублёў. З 14 млрд. рублёў, выдзеленых сёлета парламентам з дзяржбюджэту на ваенныя расходы, МА рэальна атрымала толькі восем. Але з улікам галапіруючай інфляцыі ў адным ліпені фактычныя расходы Узброеных Сіл Беларусі складуць, паводле папярэдніх даных, 1 млрд. 950 млн. рублёў.

Нямала таксама прафесіянальных ваенных-небеларусаў, якія выказалі жаданне пакінуць Беларусь. Ужо сёлета, сказаў І. Зубко, па сваіх гістарычных радзімах раз'ехаліся 732 чалавекі, 205 з іх адбылі на Украіну. У бліжэйшы час пакінуць Беларусь яшчэ 239 чалавек, 184 з іх паедуць на Украіну. У Расію вырашылі падацца 2 генералы.

Згодна з дзеючым міждзяржаўным пагадненнем, усім ваеннаслужачым, што пажадалі служыць дома, будзе выплачвацца пенсія пасля выхаду іх у адстаўку з улікам тэрміну праходжання службы ва Узброеных Сілах СССР і нацыянальных арміях яго былых суб'ектаў.

**Вячаслаў ЗЯНЬКОВІЧ, «Інтэрфакс».**

## У МЯНЕ ЗАЗВАНІЎ ТЭЛЕФОН. ЗА 10 ТЫСЯЧ

СЛУЦК. Выканком гарадскога Савета народных дэпутатаў прыняў рашэнне аб выдзяленні 150 тэлефонных нумароў для насельніцтва горада па камерцыйнай цане — 10.300 рублёў, без уліку звышбудаўнічых работ. Зроблена гэта быццам бы «ў мэтах умацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы Слуцкага вузла сувязі», а ў сапраўднасці ў лепшых традыцыях рынку, пры якіх прынята паляпшаць свой матэрыяльны стан за кошт спажыўцоў. Цікава, колькі ў горадзе знойдзецца людзей, якія змогуць заплаціць 10 «кавалкаў» дзеля таго, каб пачуць у трубцы гудкі. Дарэчы, гэта сума толькі на першы погляд здаецца вялікай, бо, напрыклад, у некаторых гарадах Маскоўскай вобласці ўстаноўка тэлефона каштуе да 100 тысяч рублёў.

«ВАКОЛ СЛУПА»: ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## Куды ты вядзеш нас, «Сусанін»-герой?

### АБО АБ ТЫМ, ЯК НЕЛЕГАЛЬНА ПЕРАЙСЦІ ГРАНІЦУ СНД

Тое, што ва ўсім цывілізаваным свеце з'яўлялася (і з'яўляецца) адным з галоўных пунктаў Дэкларацыі правоў чалавека, якая, прабачце за таўталогію, дэкларуе свабоду перамяшчэння з адной краіны ў другую, у злашчасным СССР трансфармавалася ў простую і сціплую прымаўку: «Сядзі і не рыпайся». Пакінуць нашу тагачасную імперыю можна было толькі моцна «насаліўшы» ўладам пры адпаведным «бласлаўленні» ўсемагутнага КДБ, альбо маючы ў сваім пашпарце «падазроны» запіс у пятай графе.

Мінулі гады, краіна развалілася на незалежныя рэспублікі, а яе жыхары пачалі шукаць, «дзе лепей», іншымі метадамі. Адны ўганяюць самалёты, другія карыстаюцца афіцыяльнымі турыстычнымі паездкамі, трэція накіроўваюцца ў службовыя камандзіроўкі і г.. д. і да т. п. Аднак, пагартаўшы рэкламныя газеты, мы можам знайсці і зусім незвычайныя спробы сувязі з замежжам.

«За ўмераную плату дапамагу нелегальна перайсці граніцу СНД. Тэлефон у рэдакцыі» — такая аб'ява з'явілася нядаўна ў адным з маскоўскіх выданняў. Пры слове «нелегальна» адразу прыгадаўся Ленін, які тайком ад царскай ахранкі прабіраецца ў Расію, Шцірліц у падполлі з радыёперадатчыкам, павеяла дурманам канспірацыі, і я, не марудзячы, пачаў пошукі невядомага апекуна. І вось на трэці дзень, прарваўшыся праз кардон недаверу і падазронасці, набіраю нумар тэлефона «праваднікa».

**— Алё, добры дзень, гэта вас з Мінска турбуюць. Прачытаў у газеце вашу аб'яву і вось вырашыў пазваніць.**

— (Пасля маўчання). Чую. Адразу папярэджваю, што па тэлефоне нічога вырашаць не будзем. Прыязджайце ў Маскву, сустрэнемся.

**— Добра, але ж мне трэба хоць трохі высвятліць абставіны справы. Цераз якую граніцу будзем пераходзіць?**

— Цераз польскую. У вас, на Беларусі. А колькі вас?

**— Двое. Вы самі паведзяце?**

— Гэта вас не павінна непакоіць. Ваша справа — своечасова сабрацца і разлічыцца са мной.

(Наўрад ці сам павядзе. Ён — проста падстаўная асоба. Напэўна, пенсіянер, якому каапeратыў дае пасрэдніцкую работу дома. А можа, усё ж сапраўдны «Сусанін»? Тады хто ў яго на Беларусі — сваякі, сябры, «калегі»?)

**— А колькі трэба грошай?**

— Калі назад не збіраецеся вяртацца — 15 тысяч наяўнымі з чалавека, калі пойдзеце назад у «савок» — трохі больш. За рызыку.

**— А назад вы таксама дапамагаеце перайсці?**

— (Незадаволеным тонам) Давайце лепш сустрэнемся і пагаворым.

**— А калі пагранічнікі «застукаюць»?**

— Не хвалюйцеся. З гэтым усё «схоплена». Прыязджайце ў Маскву, абмяркуем (нецярпенне ў голасе).

(Так. Што значыць «усё схоплена»? Ён што, наслухаўся сатырыкаў-гумарыстаў і ўзяў у арэнду метр дзяржаўнай граніцы? Жарты жартамі, а, напэўна, у яго сапраўды ёсць «падвязка» сярод беларускіх пагранічнікаў. Аднак трэба «закругляцца»).

**— Вы не баіцёся, што я супрацоўнік КДБ і званю, каб справакаваць вас?**

— А пайшоў ты... (кінуў трубку).

(Напэўна, усё ж падсадная качка, калі КДБ не спалохаўся).

Так безвынікова скончылася мая легальная размова з «нелегалам».

Аднак ён далёка не адзіны ў сваёй спробе «дапамагчы» шматлікай арміі жадаючых пакінуць радзіму назаўсёды або на кароткі час. У газетах і на слупах можна сустрэць аб'явы накшталт: «Гарантую пераход цераз мытню без праверкі», «Прапаную пераезд польскай граніцы за 1 гадзіну без чаргі», альбо «Гарантую афармленне выязных дакументаў у абход чаргі».

І ўсё ж пераважная большасць нашых з вамі суайчыннікаў дзейнічае менш небяспечнымі, аднак не менш прыбытковымі метадамі. Можна, напрыклад, паспяхова прадаць выклікі ў Польшчу на Камароўскім рынку ў Мінску за 1.000 рублёў, можна здаць кватэру чалавеку з умовай прадастаўлення паездкі на пастаяннае месца жыхарства, можна зрабіць фіктыўны выклік, яшчэ больш выгадна самому арганізаваць якую-небудзь паездку, дзеля чаго вялікага розуму не трэба — толькі грошы, камерцыйная кемлівасць і некалькі дзесяткаў навяўленых «турыстаў».

А калі вы жадаеце ўбачыць пагранічныя слупы не з акна аўтобуса ці поезда, а з прыдарожнай ляснoй канавы або якога-небудзь гушчару,— звяртайцеся да тых, хто прапануе зрабіць гэта «нелегальна». Праўда, за 15 тысяч. Затое рамантычна і ў пагранічнікаў «усё схоплена». Толькі ці дачакаемся мы часу, калі будзе «ўсё схоплена» ў кампетэнтных органаў?

## ЗА ПЛЯШКУ–76 «ЗАЙЧЫКАЎ»?

**МІНСК. (Кар. «Звязды»). Яшчэ з далёкага ружовага маленства і першых дзіцячых казак кожны з нас ведае, які зайка «пад хмяльком» бывае знаходлівы і смелы. Ён, бачыце, і хітрую лісу вакол пальца можа абвесці, і шэрага разбойніка — ваўка не баіцца, і нават касалапы яму не звер.**

Але такое можа быць толькі ў казцы. Як аказалася, даўгавухі і даўганогі нядаўна моцна падвёў двух рабочых аднаго з заводаў нашага горада. Атрымалі яны зарплату і па завядзёнцы вырашылі яе «абмыць». Неўзабаве прыхільнікі Бахуса былі ўжо ля акенца вінна-гарэлачнага аддзела. Тут таропка падалі талоны, адлічылі новенькія «зайчыкі» і, прыхапіўшы дзве бутэлькі «Пшанічнай», накіраваліся ў «сваё» патаемнае месца...

Пасля таго як сябры «ўгаварылі» пляшку, ім раптам цюкнула, што яны вельмі ж многа заплацілі за сваю пакупку. Сапраўды, пераблытаўшы «зайчыкаў» з «драўлянымі», у спешцы выклалі ажно 152 новенькія рознакаляровыя знакі-паперкі.

Кінуліся выпівакі назад да акенца: маўляў, мы памыліліся, вярніце нам рэшту. Але, як кажуць у такім выпадку, трымай кішэнь шырэй. Прадавец адно злосна зыркнула на пачырванелыя твары і нахабна заявіла-адсекла, што яна іх упершыню бачыць. А яшчэ параіла: калі выпілі, шыбуйце дамоў, пакуль не выклікала міліцыю.

Што ж, няхай гэты факт відавочнага ашуканства застанецца на сумленні бессаромнага работніка нашага гандлю. Але ў тым, што лішнія «зайчыкі» скокнулі з кашалькоў, перш-наперш вінаваты іх уладальнікі. Так што нікoлі нельга блытаць купюры, асабліва, калі знаходзішся «пад хмяльком», як той казачны фанабэрысты віславухі.

## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

### ФІНЛЯНДЫЯ—БЕЛАРУСЬ: КАНТАКТЫ БУДУЦЬ ПАШЫРАЦЦА

Прэзідэнт Фінляндыі Маўна Койвіста пасля візіту на Беларусь стварыў пры сваім урадзе спецыяльную рабочую групу, задача якой — наладжванне эканамічнага супрацоўніцтва з Беларуссю. Дарэчы, група паралельна будзе займацца і дзелавымі кантактамі з Украінай.

### СНІД ЗАВАЁЎВАЕ ЛАТВІЮ

Лабараторыя ананімнага даследавання на СНІД пры Латвійскай рэспубліканскай клінічнай бальніцы імя П. Страдыня за апошнія тыдні зарэгістравала адразу чатырох носьбітаў вірусу «хваробы XX стагоддзя». Прычым у адрозненне ад мінулага года, калі амаль усе няшчасныя былі паддадзенымі замежных дзяржаў, сённяшняя прыліўная хваля СНІДу складаецца толькі з пастаянных жыхароў Латвіі, прытым амаль з адных мужчын. Такім чынам, па «сніданоснасці» Латвія хуткімі тэмпамі даганяе іншыя краіны СНД.

### ПАДВЯЛА ЖУРНАЛІСЦКАЯ ЦІКАЎНАСЦЬ

**Галандыя абвясціла аб высылцы чатырох грамадзян СНД, якія абвінавачваюцца ў шпіянажы. Адзін з іх—Леанід Чарнашкур — уласны карэспандэнт газеты «Комсомольская правда».**

### РОСТ ЗЛАЧЫННАСЦІ

Паводле афіцыяльнай інфармацыі МУС Расійскай Федэрацыі, рост крымінальных злачынстваў у I квартале г. г. склаў у Расіі 45 працэнтаў.

### КОЛЬКІ КАШТУЕ ПАЛЯЧЫЦЦА!

У Латвіі ў апошні час рэзка скарацілася колькасць захварэўшых. Прычына зусім не ў грандыёзных поспехах мясцовай медыцыны, а ў... плаце за паслугі паліклінік. Сёння бальнічны ліст «каштуе» ў сярэднім 185 рублёў, візіт урача на дом — 10 рублёў. Аналізы, у тым ліку мачы і калу,— ад 3 да 8 рублёў, а пламбіраванне зубоў абыдзецца ў 60 «драўляных».

### ВЫЙГРАЦЬ БЫЧКА!

**Арганізатары латарэі ў Воланаўскім раёне Белгарадскай вобласці на дзесяцірублёвы білет прапанавалі ў якасці выйгрышу не матацыклы і халадзільнікі, а бычкоў. Сяляне пачалі актыўна набываць білеты—чырвонец сёння амаль не грошы, а шанц набыць у гаспадарку бычка з'явіўся.**

Святлана АЛЕКСІЕВІЧ.

# Зачараваныя смерцю

(Працяг. Пачатак у № 134).

## ГІСТОРЫЯ З АБМОТКАМІ, ЧЫРВОНЫМІ ЗОРАЧКАМІ І ЧАЦВЁРТЫМ СНОМ ВЕРЫ ПАЎЛАЎНЫ

**Васіль Пятровіч Н. — 87 гадоў.**

— Я падумаў: добры дзень для смерці. Чыста. Снег. Хтосьці пачне з пачатку. Жыццё — тэатр, у кожнага — свая роля. Мой тэатр знік. Людзі, якія былі калісьці маімі сябрамі, з якімі ў мяне была адна памяць, адзін час,ператварыліся ўжо ва ўспамін, у туман, я не магу іх адрозніць ад сну. Ад начнога трызнення. Адзін час заканчваецца, пачынаецца іншы. Мне далёка за восемдзесят. Я страшэнна стары. Старэчы маразм, вось дзе — выратаванне! Стаўшы свабодным, як дзіця, няма памяці ні аб чым. Не, бачу ўсё выразна, як на досвітку.

Гэты страшны боль у суставах... Але ён дапамагае, ён прымірае са смерцю, таму што робіць раўнадушным. Застаецца адно жаданне: хутчэй бы ўсё скончылася. Асабліва пасля бяссоння, пасля страшэннай і абыякавай пакуты бяссонніцы.

... Я спрабаваў памерці... Сам... рэмень на шыю... Завязваеш, як гальштук... Праўда, я ўжо даўно не насіў гальштук. Ён мне не патрэбен дома, на кухні. Сярод людзей я бываю рэдка, а цяпер і зусім не хочацца, я нікога не ведаю ні ў сваім доме, ні на сваёй вуліцы. Апошні знаёмы стары з суседняга пад'езда памёр пяць гадоў назад. Я страціў столькі блізкіх, што ў мяне там іх больш, чым тут. Лепш за ўсё цяпер для мяне глядзець на вуліцу, на жыццё з акна. Назіраць. Якое шчасце, што трэці паверх, нават твары можна разгледзець, прычоскі. Што я заўважыў: жанчыны зноў пачалі насіць доўгія валасы і скураныя курткі. Жанчын з доўгімі валасамі я сустракаў толькі ў дзяцінстве і ў кіно. Мая першая і мая другая жонкі былі стрыжанымі, як усе. Іх ужо даўно няма. Дзе яны?

Так, на старасці я стаў ненадзейным атэістам. Я хацеў... Тады мне не далі памерці... Расплюшчыў вочы і зразумеў, што зноў жыву, мая грудная клетка ўздымалася, як сапсаваная помпа, але я дыхаў. Каля мяне стаялі ўрачы. Што яны могуць сказаць чалавеку, калі вяртаюць яго адтуль? Быццам яны ведаюць, адкуль яны яго вяртаюць. Яны могуць паставіць кропельніцу, злічыць пульс. І ты чуеш, як у цябе ўліваецца жыццё, у той час як ты хочаш памерці. Але я жывы толькі сярод мёртвых...

Сярод жывых у мяне дзіўнае адчуванне, быццам я ўжо не з імі, а гляджу на іх і на сябе аднекуль з іншага вымярэння. Дзіўна, што вы ў мяне аб чымсьці пытаецеся, быццам я жывы, а не мумія. Нібыта аднымі і тымі ж словамі карыстаемся, а сэнс у іх розны. Як праз сценку, з адной у другую камеру перастукваемся. Хіба вы зразумееце, што я ўсё жыццё любіў партыю?! Так, партыю. Самае дарагое для мяне слова. Гэта было маё гарачае пачуццё, мая любоў. Так моцна я змог палюбіць толькі думку аб смерці.

Сумна паміраць ад хваробы, ад страшэннага болю ў суставах. Ад бяссоння, калі размаўляеш і размаўляеш з сабой. Ці з мёртвымі. Яны добрыя субяседнікі, таму што заўсёды маўчаць, толькі слухаюць. Думка аб смерці зноў далучыла мяне да чагосьці вышэйшага, як раней да партыі. Я семдзесят гадоў у партыі. Навошта? Каму гэта цікава? Нашы памылкі, нашы радасці. Не ведаю. Не ўпэўнены.

Я хачу ўтрымаць думку. Вельмі важна, каб вы зразумелі. Для гэтага мне трэба ісці прама, не збочваць і не вяртацца. Ісці прама да той кропкі... Калі я накінуў на сябе рэмень...

Партыя — гэта мой боль. Нашы ідэалы... Я вас разумею... Сёння цяжка пра гэта гаварыць... Сын у мяне нарадзіўся ў дваццаць сёмым годзе. Назвалі Акцябром. У гонар дзесятай гадавіны Вялікага Кастрычніка. Якія ідэалы былі! Самыя чыстыя ідэалы, светлыя. І людзі былі светлыя. Такіх людзей больш ніколі не будзе. Я нядаўна прачытаў у адной газеце, што мы, маё пакаленне, выпалі з гісторыі. А мы былі! Не спяшайцеся нас забываць, выкрэсліваць. Мы таксама кахалі... На вяселле жонка пашыла белую сукенку. З марлі. Я быў ранены і таксама ўвесь перавязаны марляй, бінтамі. Але якія мы былі шчаслівыя! Вакол — голад, эпідэміі, тыф, зваротны тыф, галаўны тыф... Іх многа было. Ідзеш па вуліцы — ляжыць мёртвая маці, каля яе сядзіць маленькае дзіця і просіць: «Мамка, дай есці...» Горад Орск Арэнбургскай вобласці... Дваццаць першы год... Хлеб дваццаць першага зусім не той, што хлеб семнаццатага. Хлеб з макухай, яго не ўгрызеш. А мы шчаслівыя: жывём у вялікі час, служым рэвалюцыі! Гэта не выпаліць з майго сэрца, з маёй свядомасці.

Ішла грамадзянская вайна... Я нават помню, якія абмоткі нам выдалі. Чырвоныя зорачкі для шапак. Шапак не было, але чырвоныя зорачкі нам уручылі. Што за Чырвоная Армія без чырвоных зорачак! Далі вінтоўкі. І мы сябе адчувалі абаронцамі рэвалюцыі. Калі нашы таварышы траплялі ў палон, то жывымі мы іх ужо не бачылі, нам вярталі іх толькі мёртвымі. На лобе і на грудзях у кожнага выразаны зоркі... Дзве чырвоныя зоркі... Гэта ж наша вера, гэта ж наша біблія. Я перад смерцю ўжо... Трыццаць гадоў назад, дваццаць гадоў назад, дзесяць гадоў назад. Пяць гадоў назад. Яшчэ год назад... Я б вам гэтага не расказваў. Мне здаецца, што я гэтага не памятаў. Незразумелая рэч: я гэтага сапраўды не памятаў. Як ляжаў белы афіцэр. Хлапчаня... Голае... Жывот распораты, а з яго пагоны тырчаць... Жывот набіты пагонамі... Але я б вам раней гэтага не расказаў... Штосьці з маёй памяццю стала... Шчоўкае там, шчоўкае... Як у фотаапараце... Я перад смерцю ўжо...

Не! Наша жыццё — гэта быў палёт. Для майго пакалення, пакалення бальшавізму, ідэалам стала барацьба. 1919—1921 гады. Самыя лепшыя гады, мае добрыя прыгожыя гады. Яшчэ жывы Ленін. Леніна я нікому не аддам, з Леніным у сэрцы памру. Гэта маё юнацтва. Усе верылі ў хуткую сусветную рэвалюцыю, любімая песня: «И на горе всем буржуям мировой пожар раздуем».

Вядома, было многа наіўнага, смешнага. Танцы, напрыклад, мы лічылі мяшчанствам, учынялі суды над танцамі, каралі тых камсамольцаў, хто хадзіў на вечарынкі, вальсіраваў. Я некаторы час быў старшынёй суда над танцамі. З-за гэтага свайго марксісцкага перакання не навучыўся танцаваць, потым вельмі каяўся. Ніколі не мог патанцаваць з прыгожай жанчынай.

Аб чым спрачаліся? Аб камуністычнай будучыні, якой яна будзе і як хутка. Праз сто гадоў будзе, але нам гэта здавалася далёка, вельмі далёка. Хацелася хутчэй. І пра каханне спрачаліся. Асабліва пра кнігу А. Калантай «Каханне пчол працоўных». Аўтар абараняла свабоднае каханне, гэта значыць каханне без кахання, без пушкінскага: «Я помню дзіўнае імгненне». Нам кніга падабалася, таму што каханне мы адмаўлялі як буржуазныя забабоны, біялагічны інстынкт, які сапраўдны рэвалюцыянер павінен перамагчы ў сабе. Любіць можна было толькі рэвалюцыю. Я памятаю (праз столькі гадоў), што погляды падзяляліся: адны — за свабоднае каханне, але з «чаромхай», гэта значыць з пачуццямі, другія — без усякай «чаромхі». Я быў за тое, каб з «чаромхай», каб цалавацца. Да чаго ж смешна сёння пра гэта ўспамінаць...

Вось вы гаворыце, што гэта ўтопія. Мы шчыра верылі, усёй душой. Погляды адсюль, з канца, усе не такія, як тады, і словы як быццам незнаёмыя: «Весь мир насилья мы разрушим до основанья, а затем мы свой, мы новый мир построим. Кто был никем, тот станет всем...» Разбурым! Цяпер раптам успамінаю, бачу: з разбітай памешчыцкай сядзібы хтосьці выкінуў піяніна. Вясковыя хлопцы пасвяць кароў і іграюць палкамі на гэтым піяніна. Гарыць сядзіба... Белы высокі дом... Старыя хрысціяцца, а мы смяёмся... З царквы жоўты купал упаў, яго сцягнулі вяроўкамі, коціцца... Мы смяёмся... «Мы свой, мы новый мир построим...»

Паўпісьменныя, паўгалодныя. Маладыя! З нас лёгка атрымліваліся ідэалісты, летуценнікі. Мы марылі сярод крыві — сваёй і чужой. Любімыя вершы: «То сердце не научится любить, которое устало ненавидеть», «...дело прочно, когда под ним струится кровь...» Нейкім незразумелым чынам кроў і мара ўжываліся. Чалавека проста не было — быў капіталіст, кулак, бядняк, пралетарый, імперыяліст, буржуй. Забітага шкадавалі, калі ён — пралетарый, але неяк мімаходзь шкадавалі, на хаду, на маршы. Як пісаў паэт: «...отряд не заметил потери бойца, и «Яблочко» песню допел до конца». Ні кроплі, ні грама спачування, калі — кулак, буржуй. Незразумелая рэч! У Эсхіла ці Эўрыпіда нядаўна знайшоў: «Люди не могли бы жить, если бы боги не дали им дара забвения». Мяне гэты дар пакінуў. Раптам задаю сабе пытанне (а ніколі раней не задаваў): чаму я не шкадаваў таго хлопчыка з распоратым жыватом, набітым залочанымі пагонамі? Ну, бяляк, ну, буржуйскі сынок... І ўсё-такі, як ты... Хлапчук... Не, па законах логікі, па законах навукі нас судзіць нельга. Нас можна судзіць толькі па законах рэлігіі. А я няверуючы...

...Я яшчэ ўчора хацеў спытаць: няўжо вам на самай справе цікавы гэты звар'яцелы стары, якому нават хлеб ужо не пахне? Заўсёды хваляваў пах свежага хлеба, а цяпер і ён без паху. Як вада. Я ўсіх перажыў... Я перажыў свайго сына... Мяне мучыць бяссонніца... І шчоўкае, шчоўкае ў мазгу... Як у фотаапараце. Але я павінен ісці проста да той кропкі... Не збочваць, не вяртацца...

Крыху раней, калі я яшчэ выходзіў на вуліцы. Год назад. Выбраўся, канешне, з палачкай. Некалі гэта было так блізка, усяго два кварталы, а тут гадзіну цягнуўся. У трамвай залезці пабаяўся, там людзі, многа людзей, а тут я адзін, калі што — да сценкі дома можна прытуліцца, быццам ты задумаўся, пастаяць, адпачыць. Не люблю, калі мне нагадваюць пра маю старасць. А я вельмі стары. Я хацеў пераканацца, што Ленін стаіць там, на плошчы, дзе ён стаяў заўсёды. Убачыў яго яшчэ здалёк, спачатку — узнятую руку, потым — усю постаць. Трыбуны не было, аказваецца, трыбуну перанеслі некуды. Раней яна стаяла адразу за помнікам, у святы яе ўпрыгожвалі чырвонымі бантамі, да Леніна прыносілі кветкі. Там заўсёды ляжалі кветкі. Кветак я не знайшоў, нават высахшых. Каб у мяне было больш сіл, я прынёс бы яму кветкі. Але я не ведаю, дзе цяпер знаходзяцца кветкавыя магазіны, мне абавязкова спатрэбіліся б чырвоныя гваздзікі. Сёння так не любяць чырвоны колер, усё чырвонае, што я не ўпэўнены, ці вырошчваюць чырвоныя гваздзікі?

У мяне нічога, акрамя Леніна, няма. Калі вы адымеце ў мяне веру ў Леніна, што ў мяне застанецца? Што застанецца ад майго жыцця, ад майго юнацтва? Усё маё багацце — жалезны гэты ложак, што я гадоў сорак назад купіў, па-мойму, адразу пасля вайны, пісьмовы стол і кнігі. Паглядзіце: гэтыя рэчы гэтак жа зношаны, як і я. Я не накопліваў рэчы, мне нічога падобнага ў галаву не прыходзіла. Спачатку ваяваў за светлую будучыню, потым яе будаваў. Хто абзаводзіцца рэчамі ў ваеннай зямлянцы ці на будаўнічай пляцоўцы? Гэта было зусім іншае жыццё. Наша жыццё. Я разумею, што ў мяне няма ніякіх доказаў, акрамя ўспамінаў. Але яны не матэрыяльныя... Яны з галіны заклінанняў...

...Мы ўсе напаўгалодныя, напаўраздзетыя. Але суботнікі ў нас — круглы год, і зімой таксама, у трыццаціградусны мароз. На маёй жонцы асенняе палітэчка. Мы грузім вугаль, цягаем тачкамі, мяшкамі на сябе. Яна — цяжарная. Незнаёмая дзяўчына, якая разам з намі працавала, пытаецца ў жонкі:

— У цябе такое паліто лёгкае. А іншага няма?

— Не.

— Ведаеш што: у мяне два. Было яшчэ добрае паліто, і ад Чырвонага Крыжа атрымала новае. Ты скажы мне свой адрас: я ўвечары прынясу.

І ўвечары яна прынесла нам паліто, не старое, а новае. Яна нас не ведала, яна першы раз нас бачыла. Дастаткова было: мы — члены партыі, і яна — член партыі. Мы былі як браты і сёстры. Маладыя і бедныя. Нам усім нічога не трэба было, акрамя адной веры.

У нашым доме жыла сляпая дзяўчына, з дзяцінства сляпая, і яна плакала, калі мы не бралі яе на суботнік. Усе памерлі... Бальшавіцкае пакаленне ляжыць пад мармуровымі плітамі... І на плітах высечана: член партыі з такога-та года... Ідзіце на старыя могілкі... У нас у Ленінградзе, у Маскве... З якога года ў партыі — гэта было вельмі важна нават пасля смерці. Тут быў пэўны сэнс: якой ты веры?

Анекдот раптам успомніў... Тых гадоў анекдот... Чыгуначны вакзал. Натоўпы людзей. Чалавек у скураной куртцы адчайна шукае некага. Знайшоў! Падыходзіць да іншага чалавека ў скураной куртцы:

— Таварыш, ты партыйны ці беспартыйны?

— Партыйны.

Шэптам:

— Тады скажы: дзе тут сарцір?

Здаецца, я звар'яцеў. Што я прыгадваю? Я нешта стаміўся. Крыху памаўчу...

... Для вас мы — племя вар'ятаў, племя самазабойцаў... Я не раз ужо чуў, у газетах чытаў... На тэлебачанні... Зусім іншы час быў! Зусім іншыя людзі! Усё не так, як вы пішаце, як вы думаеце. Не так!

Першага бальшавіка я пачуў у сваёй вёсцы. Малады студэнт у салдацкім шынялі. Ён выступаў каля царквы, на плошчы:

— Цяпер адны ходзяць у ботах, другія — у лапцях, а калі будзе савецкая ўлада, усе будуць аднолькавыя.

— А што такое савецкая ўлада?—крычаць мужыкі.

— А гэта будзе такі цудоўны час, калі вашы жонкі будуць насіць шаўковыя сукенкі і чаравікі на абцасах. Не будзе багатых і бедных. Усе будуць аднолькавыя. Усім будзе добра.

(Працяг на 4-й стар.).

